© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

ГОД XXVII, № 243- 244 New York, July-August — Лiпень-Жнiвень 1977 Vol. XXVII, № 243-244

## НОВАЯ САВЕЦКАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ

Пасьля даволі даўгога, бо ад упадку Мікіты Хрушчова ў 1964 годзе, „канстытуцыйнага" заціш-ша, хоць і працавала, але бязь ніякага розгаласу, Канстытуцыйная камісія, справа новае Канстытуцыі Савецкага Саюзу раптам усплыла на парадак дня. Пленум ЦК КПСС 24 травеня сёлета адобрыў праект новай Канстытуцыі й пастанавіў рэкамэндаваць Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР паставіць яго на народнае абмеркаваньне. Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету СССР у сваю чаргу пастанавіў склікаць у кастрычніку сёлета надзвычайную пазачародную сэсію Вярхоўнага Савету дзеля прыняцьця новае Канстытуцыі. Згаданы пленум ЦК КПСС адобрыў таксама тэкст і музычную рэдакцыю новага дзяржаўнага гімну СССР.

Вось-жа новая Канстытуцыя СССР фактычна прынятая ўжо, бо сэсіі Вярхоўнага Савету, што будзе скліканая ў кастрычніку, пакінутае права адно фармальна пацьвердзіць „аднадушным" і бурным хлопаньнем у далоні новую Канстытуцыю ды гэткім-жа „аднадушным" выяўленьнем бязьмежнае ўдзячнасьці „роднай партыі й асабіста таварышу Леаніду Брэжневу".

Унутры Савецкага Саюзу — гэта чародны пэрыяд вялікага ўздыму прапагандавага шуму, які, хіба-ж ня выпадкова, зьбегся ў часе з гэткім-жа шумным адзначаньнем 60-годзьдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. На Захадзе, хоць таксама падносіцца цімала шуму вакол савецкай новай Канстытуцыі, аднак, у бальшыні выпадкаў ацэньваецца новая Канстытуцыя гэтак, як ацэньвацца яна павінна: як чародны савецкі фарс і цынічны зьдзек, калі за прыгожымі словамі закону хаваецца поўная самаволя й бяспраўе над паняволенымі крэмлёўскай клікай народамі. Гэтак, прыкладам, ацаніў новую савецкую Канстытуцыю „Нью Ёрк Таймс" у перадавым артыкуле за 10 чырвеня сёлета: **„Дзеля чаго ўся гэтая шуміха? Нашто было змагацца паўтара дзесятка год — ад Хрушчова да Брэжнева — за гэты збор банальнасьцяў, лазеяк і крывадушнасьці . . ."**

Праўда, у тэксьце гэтай Канстытуцыі ёсьць і цьверджаньні, што яшчэ пяць год таму былі-б новымі, а сяньня й яны належаць да арсэналу гэных банальнасьцяў. Гэта ведамая савецкая тэза, упяршыню афіцыйна абвешчаная ў 1972 годзе на 50-я ўгодкі ад стварэньня Савецкага Саюзу, пра тое, што быццам у Савецкім Саюзе заіснаваў адзіны савецкі народ. Яшчэ ў пастанове ЦК КПСС „аб падрыхтоўцы да 50-годзьдзя ўтварэньня Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік", апублікаванай у лютым 1972 году, было сказана: **„За гады будаўніцтва сацыялізму й камунізму ў СССР узьнікла новая гістарычная агульнасьць людзей — савецкі народ".**

Далей у пастанове гэнай было сказана, што гэны „савецкі народ" **„сфармаваўся на базе грамадзкай уласнасьці, адзінства эканамічнага, сацыяльна-палітычнага й культурнага жыцьця, марксыцка-ленінскай ідэялёгіі, інтарэсаў і камуністычных ідэалаў работніцкай клясы".** Але-ж усе пералічаныя фактары, што спрычыніліся да паўстаньня гэнага „савецкага народу" — гэта не свабоднае й арганічнае выяўленьне народных жаданьняў і імкненьняў, а накінутае зьверху сілай дзяржаўнага прымусу супраць волі гэных народаў. Больш таго, гэны „савецкі народ" штучна творыцца на расейскай нацыянальнай базе — на базе расейскае гісторыі, расейскай культуры, расейскай мовы, расейскага патрыятызму й навет расейскага мэсыянізму — разьдзьмуханьня сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі.

Дык і ў гэтым, здавалася-б, новым пытаньні няма нічога новага, а толькі паўтарэньне таго, што было абвешчана пяць год таму. Нічога рэвэляцыйнага і ў тым, што, як занепакоеныя некаторыя эмігранцкія газэты, што новая Савецкая Канстытуцыя яшчэ больш, чымся навет дасюлешняя „Сталінская канстытуцыя" 1936 году, акцэнтуе русыфікатарскія пляны Крамля. Тады, калі гэтая апошняя цьвердзіла, што **„Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў — гэта саюзная дзяржава, утвораная на аснове дабравольнага аб'яднаньня раўнапраўных Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік"**, дык у новай Канстытуцыі ўжо сказана: **„Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў — адзіная саюзная шматнацыянальная дзяржава, утвораная ў выніку свабоднага самавызначэньня нацыяў і дабравольнага аб'яднаньня раўнапраўных Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў. СССР увасабляе дзяржаўнае адзінства савецкага народу, згуртоўвае ўсе нацыі й народнасьці з мэтаю супольнага будаўніцтва камунізму".** Тут ужо фігуруе й няведамы яшчэ „Сталінскай канстытуцыі" і „савецкі народ", і „адзіная савецкая дзяржава", і „дзяржава адзінства савецкага народу", і „супольнае будаўніцтва камунізму", як супольная мэта. Ясна, што русыфікацыя ў Савецкім Саюзе ўсьцяж прагрэсуе, што й адзначыла новая Канстытуцыя. Але-ж яшчэ ня было гэткага савецкага закону, які-б запраўды, фактычна й практычна, а не фармальна толькі дзеля прапаганды на экспарт, гарантаваў нацыянальныя правы й імкненьні нерасейскіх народаў, і новая Канстытуцыя ніякі вынятак.

Як хваліцца Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя на бачыне 388 ейнага 5-га тому, **„З часу прыняцьця Канстытуцыі БССР 1937 у яе ўнесены зьмены, што абумоўлена расшырэньнем сувэрэнных правоў БССР. За БССР замацавана права ўступаць у непасрэдныя зносіны з замежнымі дзяржавамі, заключаць зь імі пагадненьні й абменьвацца дыпляматычнымі й консульскімі прадстаўніцтвамі".** Тое-ж самае сказана і ў новай Канстытуцыі СССР ды, хіба-ж, будзе паўторана ў новай Канстытуцыі БССР. Хоць у Беларусі ёсьць становішча міністра замежных справаў БССР, аднак ня было й няма выпадку, каб у Менску быў дазволены кансулят хоць аднэй замежнай дзяржавы, падобна як няма ў ніводнай замежнай дзяржаве кансуляту БССР. Функцыі гэтыя, абмінаючы канстытуцыйныя параграфы, сквапна трымае за сабой Масква.

Як у Сталінскай, гэтак і ў новай Брэжнеўскай Канстытуцыі гучна гарантуецца на словах права выхаду любой саюзнай рэспублікі із Савецкага Саюзу. Але ўзноў-жа гэтае вылучна прапагандавае пустаслоўе даўным даўно ўжо перастала дзеіць навет на найбольш наіўных людзей Захаду. У Сталінскай канстытуцыі быў параграф, у якім казалася: **„гарантуецца ў вадпаведнасьці зь інтарэсамі працоўных мас і ў мэтах замацаваньня сацыялістычнай сыстэмы ўсім грамадзянам свабоду слова, друку, сходаў, вулічных паходаў і дэманстрацыяў, сумленьня".** Але ў новай Канстытуцыі, пасьля гэткага-ж пераліку „дэмакратычных свабодаў",ададзена: **„бяручы на ўвагу грамадзкія патрэбы". А гэныя „грамадзкія патрэбы"** й даюць органам КДБ неабмежаныя юрыдычныя асновы падцягваць адно толькі патрабаваньні гэных „дэмакратычных свабодаў" пад найцяжэйшыя артыкулы карнага кодэксу.

Адным з найважнейшых матываў прыняцьця новае Канстытуцыі бясспрэчна было замацаваньне аўтарытэту й палітычнай пазыцыі самога Брэжнева й стварэньне новага, пасьля культу асобы Сталіна, культу асобы Брэжнева. У гэтым сэнсе Брэжнеў навет пакінуў ззаду свайго крывавага папярэдніка. Сталін, абвесьціўшы сябе „бацькам народаў", засярэдзіў у сваіх руках дзьве з трох найважнейшых функцыяў: функцыю генэральнага сакратара Камуністычнай партыі й функцыю старшыні Савету міністраў СССР, затое трэйцяй, найважнейшай, пасьля першай, функцыі — старшыні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР, што адказвае становішчу прэзыдэнта дзяржавы ў краёх Вольнага Сьвету, усё-ж не адважыўся прысабечыць. Затое Брэжнеў, будучы генэральным сакратаром ЦК КПСС, паводля новае Канстытуцыі, у кастрычніку сёлета меў-бы заняць становішча „прэзыдэнта СССР". Аднак не чакаючы кастрычніка, Брэжнеў ужо цяпер прысвоіў сабе гэтае становішча. Гэтак 6-я сэсія Вярхоўнага Савету СССР дзевятага скліканьня, што адбылася 16 чырвеня, аднагалосна „выбрала" яго за старшыню свайго Прэзыдыюму, інакш кажучы, за „прэзыдэнта", а папярэдні старшыня й найбліжэйшы „саратнік" Брэжнева Мікалай Падгорны, будучы 24 травеня выкінутым з Палітбюра, канчаткова пасланы „на эмэрытуру".

„Нью Ёрк Таймс" за 23 чырвеня інфармуе, што паводля перакананьня экспэртаў і галоўных аналітыкаў у Урадзе ЗША, асноўнай мэтай новай савецкай Канстытуцыі — далейшая цэнтралізацыя ўлады ў Крамлі й далейшае абмежаньне тых мінімальных правоў, якія маюць яшчэ паасобныя савецкія рэспублікі. З гэтай невясёлай для нас прагнозай прыходзіцца, нажаль, згадзіцца. Капрызам гісторыі асабліва цяжкая доля ў савецкай турме народаў выпала беларускаму народу, бацькаўшчына якога пастаўленая пад найвайстрэйшы ўдар русыфікацыі галоўна ў сувязі зь ейным геапалітычным палажэньнем як простага шляху з Масквы на Захад і, наадварот, із Захаду ў Расею. Дык і ад новай Брэжнеўскай канстытуцыі, цьвяроза думаючы, трэба чакаць яшчэ большага зла.

Але ёсьць таксама сілы супрацьдзеяньня савецкаму ціску, што даюць надзею ціск гэты вытрымаць і ператрываць.

Гэта, з аднаго боку, магутны жыцьцёвы патэнцыял беларускага народу й ягоная наважанасьць супраціўленьня злу, што ціраз ратавала й уратавала народ ад нацыянальнае сьмерці. Пра гэта красамоўна засьветчыла ўся нашая гісторыя. З другога боку міжнародная палітычная каньюнктура ўпяршыню ў паваеннай гісторыі пачынае працаваць і на нашую карысьць.

Прыгадайма сабе, што ў паасобных фазах савецка-заходніх дачыненьняў паваеннага пэрыяду, як фаза халоднае вайны, фаза паўстрымоўваньня камунізму ці навет фаза нясьмелых спробаў палітыкі вызваленьня, Савецкі Саюз заўсёды быў у наступе, а найбольш эфэктоўнай зброяй у гэтай ягонай стратэгіі была палітычная й прапагандавая акцыя супраць каляніялізму заходніх дзяржаваў ды за нацыянальную незалежнасьць каляніяльных і паўкаляніяльных народаў сьвету. Захад-жа, у тым ліку й Амэрыка не маглі, ня ўмелі ці проста не хацелі ўжыць супраць Савецкага Саюзу прынамся роўна эфэктыўнай палітычнай і прапагандавай зброі, а таму й прайгравалі.

Апошнім часам зброя гэткая Захадам знойдзеная. Гэта распачатая Прэзыдэнтам Джымі Картэрам акцыя, пакульшто дэкляратыўнага характару пераважна, абароны й пашанаваньня людзкіх правоў у цэлым сьвеце. Пры гэтым правоў ня толькі асабістых чалавека, а й правоў палітычных, рэлігійных, нацыянальных. Аказалася, што гэты выстрал трапіў у найбольш балючае для Саветаў месца. Пад ударам гэтага выстралу Масква з пазыцыяў бесьперапыннага й абнаглелага наступу была змушаная перайсьці да абаронных пазыцыяў. Дый абарона гэтая аказалася для Саветаў нязвычайна цяжкай і няўдзячнай, бо сама савецкая рэчаіснасьць не дае рэальных магчымасьцяў для гэтае абароны.

Цяжка прадбачыць, ці Прэзыдэнт Джымі Картэр вытрывае на занятых ім пазыцыях. На Захадзе і ў самой Амэрыцы яшчэ моцныя сілы, якія дзеля ўяўных і фікцыйных карысьцяў за ўсякую цану, навет коштам сваёй будучыні, гатовыя й далей капітуляваць перад Масквой. Але верым, што ўсё-ж перамогуць сілы дабра й справядлівасьці. І тады навет новая Савецкая Канстытуцыя зь ейнымі русыфікатарскімі мэтамі, новы „бацька народаў", дакладней „адзінага савецкага народу", ня будуць для нас страшнымі.

**Раман Шаруціч**

## ДЗЬВЕ СУСТРЭЧЫ Й АДНО РАЗЬВІТАНЬНЕ



**Зьлева направа ў першым радзе: а. Прат. Леў Остроўскі, Рэдактар Ст. Станкевіч, Архімандрыт Язэп Строк, Старшыня Беларускай Нацыянальнай Рады Іван Каленік; у другім радзе пасярэдзіне: Старшыня Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Васіль Пунтус.**

**Фота: Марыі Калінік**

Гледзячы на грамаду й духова перажываючы цякучыя падзеі, не заўсёды знаходзяцца адпаведныя словы, каб успрынятыя пачуцьці перадаць на паперы для іншых.

Для Беларусаў Чыкага, згуртаваных пры Беларускай Нацыянальнай Радзе й Беларускай Праваслаўнай Парахвіі Сьвятога Юр'я дзень 29 травеня быў надзвычайным. Гэта быў дзень радаснай сустрэчы й сьлёзнага разьвітаньня. Так супала.

У гэты дзень, пасьля шасьцімесячнай службы, як часовы Настаяцель Прыходу а. Пратаярэй Леў Остроўскі пакідаў Прыход і перадаваў яго а. Архімандрыту Язэпу Строку, як сталаму Настаяцелю.

Якраз у гэты дзень, паводля раней заплянаванага маршруту, галоўны рэдактар газэты „Беларус" Д-р Станіслаў Станкевіч наважыў наведаць і Чыкага, аб'яжджаючы беларускія асяродкі Сярэдняй Амэрыкі.

Рэдактара на лётнішчы Огара Філд раніцай сустрэў старшыня Каардынацыйнага Камітэту беларускіх арганізацыяў Чыкага сп. Васіль Пунтус у асысьце супрацоўнікаў. Зь лётнішча Рэдактар пажадаў адразу наведаць царкоўную службу Прыходу Сьвятога Юр'я, паколькі на гэта склаўся прынагодны час. Калі Рэдактар пераступіў парог сьвятыні, ужо адпраўлялася Сьвятая Літургія а. Архімандрытам Строкам, доўгагадовым прыяцелем Рэдактара, і ўступаючым Настаяцелем-місыянэрам а. Пратаярэем Львом. Бязьмежная любасьць парахвіянаў да місыянэра а. Льва ды спадзяваньні на бацькаўскую сьвятую любасьць новага Настаяцеля а. Архімандрыта Строка і сумам, і радасьцяй сьвяціліся з твараў парахвіянаў.

Пасьля Літургіі ўсе былі запрошаныя на абед, які падрыхтавала Сястрыцтва. На абедзе ў прамовах разьвітваліся з а. Львом і віталі сталага Настаяцеля а. Язэпа. Быў прачытаны ліст падзякі ад Управы Парахвіі й перададзены а. Льву. Пасьля Старшая Сястра Марыя Калінік уручыла ўступаючаму місыянэру кішанковы гадзіньнік з надпісам: „Айцу Льву ад Беларускай Праваслаўнай Парахвіі ў Чыкага".

З прывітальнай прамовай выступіў Рэдактар С. Станкевіч. Ён заявіў аб сваім непахісным намеры далей праводзіць працу ў газэце „Беларус" з мэтай аб'яднаньня ўсіх беларускіх арганізацыяў розных паглядаў да аднэй мэты — мэты Акту 25-га Сакавіка. Яго віталі бесьперапыннымі воплескамі. Знайшліся новыя падпішчыкі на газэту й быў праведзены грашовы збор на фонд газэты „Беларус".

На абед былі запрошаныя й прысутнічалі Беларусы зь беларускае каталіцкае Царвы Хрыста Спаса.

Далейшае слова пра ўражаньні зь беларускага жыцьця ў Чыкага перадаём самому паважанаму Рэдактару.

**Мікола Латушкін**

## У СУРОДЗІЧАЎ ЧЫКАГА

Ахвотна выконваючы просьбу сп. М. Латушкіна, якой ён закончыў вышэй зьмешчаную карэспандэнцыю, магу з усёй шчырасьцяй сказаць, што мае ўражаньні з наведаньня 29-31 травеня Беларусаў Чыкага вельмі пазытыўныя й радасныя. Будучы запрошаным на царкоўную ўрачыстасьць у Беларускай Праваслаўнай Царкве Сьвятога Юр'я, а тады на супольны ўрачысты абед, зладжаны Сястрыцтвам Парахвіі, я ўпяршыню меў добрую нагоду пазнаёміцца бліжэй зь вялікай групай Беларусаў, што гуртуюцца вакол згаданае Царквы й найстарэйшай у ЗША беларускай арганізацыі — Беларускай Нацыянальнай Рады, ды пераканацца, што ўсе яны робяць карысную беларускую работу.

Я собскімі вачыма пабачыў, што людзі, пра якіх тут мова, патрапілі стварыць моцны й актыўны беларускі нацыянальны асяродак, а асабліва дзейныя працаўнікі гэтага асяродку, як старшыня Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага Васіль Пунтус, старшыня Беларускай Нацыянальнай Рады Янка Каленік, прадстаўнік Беларускага Кангрэсавага Камітэту ў Чыкага Мікола Латушкін, сакратар Парахвіяльнай Рады згаданае Царквы Пётр Нягода й іншыя, праводзяць адзіна правільную лінію прыязнага сужыцьця й узаемнага супрацоўніцтва зь іншымі беларускімі групамі, перш-наперш із Згуртаваньнем Беларусаў штату Іліной. Ёсьць усе асновы верыць, што новы Настаяцель Парахвіі агульна паважаны й шчыры беларускі патрыёт ды выдатны й заслужаны беларускі праваслаўны сьвятар Архімандрыт Язэп Строк плённа спрычыніцца да яшчэ вышэйшага ўзроўню нацыянальнага й рэлігійнага жыцьця асяродку.

Мае першыя, а хочацца верыць, што й не апошнія наведзіны гэтага чыкаскага асяродку, а на другі дзень і асяродку другога пры Згуртаваньні Беларусаў штату Іліной ды пару дзён раней беларускага асяродку ў Кліўленьдзе, далі вельмі шмат. Яны канчаткова ўпэўнілі мяне ў тым, што занятая ад колькіх год газэтай „Беларус" пазыцыя — цеснага супрацоўніцтва й абслугоўваньня ўсіх Беларусаў у Вольным Сьвеце, **верных высокай ідэі Акту 25 Сакавіка, незалежна ад арганізацыйных формаў іхнага палітычна-грамадзкага жыцьця й дзейнасьці**, поўнасьцяй сябе апраўдала. Дзякуючы гэтаму, газэта заваявала высокі аўтарытэт і выдатнае матарыяльнае падтрыманьне ўсіх суродзічаў добрае волі.

**Станіслаў Станкевіч**

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Галоўная Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, прыймаючы запросіны Кліўлендзкага Аддзелу БАЗА ды ўзяўшы ўвагу на пажаданьні кіраўніцтваў беларускіх арганізацыяў ладзіць імпрэзы агульнаамэрыканскага характару ў розных мясцовасьцях асяленьня нашае эміграцыі ў ЗША, пастанавіла чародны XVII Кангрэс БАЗА адбыць у Кліўлендзе, Огаё, у канцатыдні Дня Працы з наступнай праграмай: **сыбота 3 верасьня 1977** — Справаздачна-Перавыбарны Сход БАЗА, пасьля чаго вечарам тагож дня адбудзецца супольная вячэра з рэфэратам галоўнага рэдактара „Беларуса" д-ра Ст. Станкевіча на актуальную палітычную тэму. Абедзьве згаданыя імпрэзы адбудуцца ў Беларускім Грамадзкім Селішчы Полацак. Удакладненая праграма дня — у запросінах.

***

**А ў нядзелю 4 верасьня** адбудзецца Сустрэча Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў у Амэрыцы. Пасьля Божае Службы ў БАПЦ царкве Жыровіцкае Божае Маці адбудзецца Вэтэранская Маёўка на селішчы Полацак з рэфэратам генэрала д-ра Я. Сажыча. Вечарам таго-ж дня — Баль. Удакладненая праграма дня— у запросінах.

# СЬВ. ПАМ. АЛЯКСЕЙ ВОЎК-ЛЕВАНОВІЧ

28 травеня сёлета ў Сыднэі (Аўстралія) на 85-ым годзе жыцьця зусім нечакана адыйшоў ад нас на вечны супакой сьв. пам. Аляксей Воўк-Левановіч. Нябожчык паходзіў із старых беларускіх баяраў, меў маёнтак Ясны Лес на Бабруйшчыне, які быў прыдзелены ягонаму роду каралевай Ядвігай.

У часе Першай сусьветнай вайны служыў у царскай гвардыі й за адвагу ў баёх быў узнагароджаны крыжам Георгія 3-яй ступені. Пасьля рэвалюцыі, прыгледзеўшыся да новай улады, ён адразу зразумеў, што новы лад яму не па дарозе. Дык пакідае ўсю сваю маёмасьць у 1920 годзе й накіроўваецца на захад. Знайшоў прыпынак у мястэчку Мядзьведзічы каля Баранавіч у тагачаснай Заходняй Беларусі. Астаўшыся без кала й без двара, тут заснаваў пры дапамозе неадлучнай сваёй жонкі малое мясное прадпрыёмства ды стварыў гэткія ўмовы, што ў няспрыяльны час у перадваеннай Польшчы перад самай вайной мог вучыць у Віленскай Беларускай Гімназіі ўсіх чацьвёра сваіх дзяцей.

Далейшая доля гэтае сям'і — уцякацтва ў Нямеччыну, а пазьней — эміграцыя ў Аўстралію. Тут зноў „дзядок" Левановіч хутка стаў на ногі: купіў дом у добрым прыгарадзе Сыднэю й жыў спакойным, поўным жыцьцём, прыймаючы ўдзел у нацыянальным жыцьці ды падтрымоўваючы беларускія арганізацыі.

У васобе Нябожчыка мы страцілі прыкладнога сем'яніна й добрага беларускага патрыёта.

У глыбокім суме засталіся: жонка, дзьве дачкі, зяць і трох унукаў — людзі, для якіх ён жыў і якімі бязьмежна ганарыўся.

Абрад пахаронаў выканаў а. Аляксандар Пігулеўскі ў Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве на Флемінгтон 31 травеня. Пахаваны нябожчык на беларускіх могілках Руквуд. Наколькі паважаны быў людзьмі, сьветчыць прысутнасьць больш за 60 асоб на пахаронах, хоць быў гэта працоўны дзень.

Няхай лёгкай будзе яму прыязная аўстралійская зямля ягонай трэйцяй прыбранай бацькаўшчыны, а ў нас застанецца вечная памяць аб ягонай сьветлай душы.

**М. Л.**

### СПАЧУВАНЬНЕ

**Прадстаўніцы газэты „Беларус" у Сыднэі й заўсёды ахвотнай супрацоўніцы ў ёй Вельмі Паважанай Спадарыні Аўгені Каранеўскай з прычыны сьмерці ейнага бацькі сьв. пам. Аляксея Воўк-Левановіча Рэдакцыйная Калегія й Рэдакцыя „Беларуса" выказваюць сваё найшчырэйшае спачуваньне.**

# 18-ТЫ ЗЬЕЗД АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЙ МОЛАДЗІ

Сёлета 2, 3 і 4-га ліпеня на селішчы Полацак каля Кліўленду адбыўся 18-ты Зьезд Арганізацыі Беларуска - Амэрыканскай Моладзі. Зьехалася моладзь здалёку й зблізку, перадусім сябры АБАМ, але й іншыя, не сябры, дзеля прыняцьця ўдзелу ў валейбольных спаборніцтвах ды каб правесьці разам у сваім маладзежным асяродзьдзі тры гэтыя дні.

У сыботу 2 ліпеня адбыўся валейбольны турнір (гульня ў сетку) паміж дружынамі дзяўчат і дружынамі хлапцоўскімі. Гэтыя спаборніцтвы занялі цэлы дзень. У змаганьні дзяўчат першае месца заняла дружына з Кліўленду, а другое — зь Нью Ёрку. Дружыне із Саўт Рывэру засталося трэйцяе месца. Хлапцоўскі турнір быў вельмі цікавым, бо зацята змагаліся дружына із Саўт Рывэру „Нёман" з дружынай Кліўленду. Пераможцам выйшла дружына „Нёман". Увечары моладзь зыбралася на сваю дыско-парты, дзе весела танцавалі пад сучасную мадэрную музыку.

На другі дзень у нядзелю адбылася Багаслужба ў БАПЦаркве Жыровіцкае Божае Маці, якую адслужыў а. Рыгор Кістнэр.

А 2:30 гадзіне папаўдні пачаўся Агульны Двухгадовы Зьезд-Кангрэс АБАМ дзеля прадыскутаваньня двухгадовае дзейнасьці арганізацыі, ейнае Галоўнае Ўправы ды перавыбараў Галоўнае Ўправы АБАМ на два наступныя гады. Зьезд адчыніў уступаючы старшыня Галоўнай Управы сябра Юрка Азарка. Быў прынята прысутнымі запрапанаваны парадак дня, пасьля чаго адбыліся выбары прэзыдыюму Зьезду. За старшыню Зьезду была выбраная Раіса Станкевіч, а за сакратара — Міша Швэд. Старшыня Зьезду прачытала прывітаньні ад Галоўнага Рэдактара газэты „Беларус" д-ра Ст. Станкевіча й ад Старшыні Галоўнае Ўправы БАЗА спра А. Шукелайця. Прывітаньне ад Старшыні Беларускага Фэстывальнага Камітэту др-а В. Кіпеля прачытаў Міша Швэд. Справаздачы зь дзейнасьці паасобных аддзелаў АБАМ здавалі: ад Ньюёркаўскага Аддзелу ягоная старшыня сяброўка Ніна Запруднік, ад Аддзелу Нью Джэрзі — старшыня сяброўка Алеся Кіпель, ад Аддзелу Кліўленд — старшыня сяброўка Галіна Кананчук, з Дэтройту паінфармаваў пра праробленую дзейнасьць сябра Язэп Сажыч.

Справаздачы зь дзейнасьці Галоўнае Ўправы складаліся із справаздачы старшыні Галоўнае Ўправы Юркі Азаркі й скарбніка Алесі Кіпель, а справаздачу сакратара Анны Бойчук, няпрысутнай на Зьездзе, прачытаў Міша Швэд. Пасьля цікавае дыскусіі над справаздачамі Галоўнае Ўправы была справаздача Рэвізыйнае Камісіі, якую прачытала сяброўка Валя Гарох. Уступаючай Галоўнай Управе было дадзенае абсалюторыюм з падзякаю.

У новую Галоўную Ўправу АБАМ былі выбраныя: за старшыню быў перавыбраны на другую кадэнцыю сябра Юрка Азарка. За сяброў: Алеся Кіпель, Юрка Курыла, Люда Русак, Міша Швэд, Вітаўт Тумаш і Ніна Запруднік. У Рэвізыйную Камісію ўвайшлі: Валя Гарох, Юрка Кіпель і Язэп Сажыч.

Двухгадовую справаздачу зь дзейнасьці Рэдакцыйнае Калегіі часапісу „Беларуская Моладзь" зрабіла Галоўны Рэдактар Раіса Станкевіч. Скарбнік Рэдакцыі Ніна Абрамчык зрабіла фінансавую справаздачу. За Галоўнага Рэдактара „Беларускай Моладзі" была перавыбраная на наступную кадэнцыю Раіса Станкевіч. У Рэдакцыйную Калегію выбраныя наступныя сябры: Юрка Азарка, Ірэна Азарка, Андрэй Гасьцееў і Ніна Запруднік.

На прапанову старшыні Галоўнае Ўправы Юркі Азаркі, сп-ня д-р Ала Орса-Рамана зь Нью Ёрку ў знак прызнаньня за шматгадовую працу з танцавальнымі маладзежнымі групамі, якіх вучыла беларускіх народных танцаў, была выбраная аклямацыямі ганаровым сябрам АБАМ.

У вабмеркаваньні пляну працы на будучыню на першае месца была вынесеная справа выданьня, запраектванае ўжо даўней, адмысловае кніжкі пра АБАМ. Пастаноўлена прылажыць стараньні, каб выйшла яна як найхутчэй. Таксама пастаноўлена прыняць удзел разам зь іншымі маладзежнымі арганізацыямі ў выданьні адмысловай кнігі ў ангельскай мове інфармацыйнага характару на тэму Беларусі, ейнае гісторыі й культуры. Кніга мае быць падрыхтаваная д-рам Я. Запруднікам і будзе дапасаваная для карыстаньня моладзяй, як прыкладам у інфармаваньні чужынцаў пра Беларусь.

Сход закончыўся прапяяньнем моладзяй з удзелам некаторых сяброў кліўлендзкага царкоўнага хору беларускага нацыянальнага гімну.

Вечарам таго-ж дня адбылася вечарына з банкетам. Прысутны а. Рыгор паблаславіў банкет, а ўсімі прысутнымі была прапяяная малітва Ойча Наш. Падчас вечарыны вядомы сьпявак сябра Данчык Андрусышын выконваў пад ягоны-ж акампаньямант на гітары беларускія песьні. Выдатна грала да танцаў украінская аркестра. Настрой стварыўся сьпеўны, калі той-жа Данчык прапяяў пару песьняў з аркестрай паўкраінску. На вечарыне былі разданыя ўзнагароды пераможцам на валейбольных спаборніцтвах.

Панядзелак, хоць і ня цэлым, быў апошнім днём на Полацку, бо чакала вялікая дарога аўтамі ў Нью Ёрк і Нью Джэрзі. Пакідалі селішча Полацак, гасьцінных гаспадароў і моладзь, удзячныя за дапамогу ў арганізацыі й правядзеньні гэтак зарганізаванага нашага двухгадовага справаздачна-перавыбарнага Зьезду. Шчырае беларускае дзякуй Вам, Кліўлендцы!

**Раіса Станкевіч**

# ТРЫ СЬВЯТЫ Ў ТРАВЕНІ



**Зьлева направа: Георгі Кузьняцоў (адзін з прыслужнікаў, унук а. Карпа Стара), Мітрапаліт Андрэй, прыслужнік Сьцяпан Дубяга, а. пратаярэй Карп Стар.**

**Фота: А. Дубягі**

Гэтак здарылася, што тры храмавыя сьвяты трох парахвіяў БАПЦарквы прыпадаюць адно за другім у веснавым месяцы травені. Гэтак 8 травеня (каляндарная дата 11 травеня) ў нядзелю быў адзначаны ўрачыста дзень Патрона Ньюёркаўскага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, 15 травеня (каляндарная дата сьвята 20 травеня) сьвята сваёй Патронкі Жыровіцкай Божай Маці адзначала парахвія ў Гайлэнд Парку, Нью Джэрзі. А 5 чырвеня перанесенае з 29 травеня сьвята Сьвятой Тройцы спраўляла царква Сьвятой Тройцы ў Дораты, Нью Джэрзі. Месяц травень таму й вызначаецца ў нашым жыцьці, як месяц, калі мы маем нагоду выказаць нашую салідарнасьць і прыняць удзел у сьвятах суседніх парахвіяў, робячы іх гэткім парадкам запраўднымі шматлюднымі фэстамі.

І шчаслівым выпадкам на ўсіх трох царкоўных сьвятах была адслужаная архірэйская Божая Служба Мітрапалітам Андрэем, а ў Гайлэнд Парку ў суслужэньні з Архіяпіскапам Мікалаем з Таронта. Асыставала ў Багаслужбах яшчэ чатырох сьвятароў і некалькі прыслужнікаў.

„Гэта Воля Божая", — паправіў мяне Мітрапаліт Андрэй, калі я выказала сваю радасьць з прычыны ягонага здаровага й бадзёрага выгляду, бо-ж параўнальна ня гэтак і даўно — на Дзень Удзячнасьці мінулага году ў Кліўленьдзе моцна занепакоіў усіх, у тым ліку й мяне стан ягонага здароўя. Даўгія архірэйскія Багаслужбы, узвышаныя эмацыянальныя пропаведзі на ўсіх трох сьвятах, як цяпер выглядала, ня мучылі яго, і гэта стварала гэткі радасны настрой ува ўсіх прысутных вернікаў.

У Нью Ёрку Мітрапаліт Андрэй у сваёй пропаведзі нарысаваў вобраз Сьв. Кірылы Тураўскага, як заснавальніка Беларускае Нацыянальнае Царквы, вялікага патрыёта, ахвярнага слугу Богу й свайму народу.

У парахвіяльным сьвяце прыняла ўдзел дэлегацыя Этыёпскае Праваслаўнае Царквы ў складзе чатырох асобаў, ачоленая Япіскапам Міхаілам. У сваім прывітаньні Япіскап Міхаіл прыгадаў сьв. пам. Архіяпіскапа БАПЦ Васіля, які першы навязаў прыязную рэлігійную лучнасьць з Этыёпскай царквой. І дзівіліся яны з энтузіязму Беларусаў, калі спантанічна й велічна (з удзелам слаўнага баса Пётры Конюха) грымнула на бяседзе беларуская патрыятычная песьня „Люблю наш край".

У Гайлэнд Парку мы, усе прысутныя, мелі нагоду перажыць іншае радаснае здарэньне — высьвячэньне доктара права Расьціслава Войтанкі ў духоўны сан дыякана. Гэта вось ужо трэйцяе пакаленьне сьвятароў Войтанкаў рэпрэзэнтуе нававысьвячаны дыякан, які выбраў той шлях, якім ішлі ягоныя сьв. пам. Дзед і Бацька.

А чаму ён шлях гэты выбраў? На гэта ён адказаў шчыра й проста: каб дзецям ад маленства, якія любяць і наведваюць царкву, дапамагчы захаваць гэтую любасьць і на далейшае жыцьцё. Ніколі не зарана працаваць і дапамагаць у гэтай справе дзецям, каб выгадаваць маладое пакаленьне ў любасьці да Бога й беларускай спадчыны. Для дзяцей, пэўне-ж, і для самага найменшага з царкоўных прыслужнікаў маленькага сына Росьціка Войтанкі, які ўвіхаўся, выконваючы свае абавязкі ў царкве.

А трэйцяе парахвіяльнае сьвята адбылося ў Дораты, дзе акружаная старымі дубамі стаіць царква Сьвятой Тройцы. І хоць найбольшая адлегласьць дзяліла прыежджых ад гэтае царквы, быў там найбольш шматлюдны фэст. Ехалі зь Нью Ёрку й Нью Брансьвіку із сваімі сьвятарамі, бо цягнула іх туды жаданьне прыйсьці з дапамогай гэтай меншай парахвіі, якая ўжо чатыры гады ўсё яшчэ змагаецца з варожымі вятрамі. Ехалі, каб выказаць прызнаньне сьвятару а, пратаярэю Карпу Стару за ягоную нязломную пазыцыю й пазытыўныя вынікі ягонае працы — у разбудове ў няспрыяльных абставінах сваёй парахвіі.

І тут, у пасьвяточнаму ўпрыгожанай царкве, Божую Службу ачоліў таксама Мітрапаліт Андрэй, а хор з удзелам харыстых і рэгента зь Нью Ёрку пяяў выдатна. Крыжовым ходам, а ў царкве ўсімі прысутнымі прапяяным гімнам „Магутны Божа" закончылася служба.

У вялікай залі царкоўнага будынку за сталамі разьмясьціліся ўдзельнікі. Усіх прысутных прывітаў прат. а. Карп Стар. Сталы былі застаўленыя смачнай ежай, якую падрыхтавала Сястрыцтва, перадусім сястра Міраноўская.

Прамаўлялі пратаярэй а. Васіль, дыякан Войтанка, старшыня Парахвіяльнай Рады зь Нью Ёрку М. Гарошка, д-р В. Кіпель, З. Станкевіч, старшыня Аб'еднаньня Новых Кубанцаў Казак Ёсіф Швэдзін, старшыня Парахвіяльнай Рады з Гайлэнд Парку А. Лысюк, сп. Янка Азарка й Браніслаў Даніловіч зь Нью Брансьвіку.

Выказваліся глыбокія думкі й пляны на будучыню. Прадстаўнік Казакаў, прыхаджанін гэтае царквы, выказваў падзяку Беларусам, што яны адзіныя спасярод суседніх да Казакіі народаў упамінаюць Казакаў у малітвах у царкве. Тую самую думку ў сваіх прамовах закранулі сп-ня Зіна Станкевіч і сп. Янка Азарка, цьвердзячы, што грамадзкая й царкоўная праца маюць дапаўняць адна адну. Вельмі патрэбная Беларусам у ЗША свая нацыянальная царква з рэлігійнымі ўстановамі, але патрэбная таксама й грамадзкая дзейнасьць, як узгадоўваньне дзяцей у беларускіх школах, вонкавая рэпрэзэнтацыя Беларусаў, нашая эміграцыйная прэса й грамадзкія арганізацыі. Для агульнага дабра й посьпеху ў нашай працы патрэбнае прызнаньне кажнаму ахвярнаму працаўніку, які выконвае тую ці іншую працу дзеля дабра ўсяе грамады.

На заканчэньне прамовіў Мітрапаліт Андрэй, падчыркваючы значаньне нашых парахвіяльных сьвятаў, сілу супольнае малітвы й супольнае трапезы. Адказваючы прадстаўніку Казакаў, ён зазначыў, што будучы ў Ангельшчыне сьвятаром, як і цяпер у Кліўленьдзе, ён сьцьвердзіў, што самыя прыязныя дачыненьні лучаць Беларусаў з Казакамі. Ён таксама выказаў веру ў лепшую будучыню царквы ў Дораты.

На ўпрыгожаньне царквы ў Дораты былі ў часе бяседы наладжаныя ліцытацыі ахвяраваных на царкоўныя патрэбы фантаў, паміж якімі была й вышытая беларускім узорам падушка сп-ні Марыі Стагановіч.

Ахвярныя людзі й нястомныя працаўнікі для дабра сваіх цэркваў былі пры нагодзе адведаньня Мітрапалітам Андрэем трох парахвіяў узнагароджаныя ім Пахвальнымі Граматамі. Гэтак Пахвальную Грамату атрымаў сп. Міхась Тулейка зь Нью Ёрку (царкоўны рэгент і былы старшыня Царкоўнае Рады), сп. Міхась Сыльвановіч з Гайлэнд Парку (былы даўгалетні старшыня Царкоўнае Рады) і сп. Хведар Міраноўскі ў Дораты (царкоўны староста).

Будзем успамінаць з удзячнасьцяй гэтыя нашыя парахвіяльныя сьвяты, якія гэтак удала былі падрыхтаваныя й гэтак урачыста й радасна былі адзначаныя Богу на славу, а нам вернікам на пацеху.

**Зіна Станкевіч**

### ЗЬМЕНА АДРЫСУ

Наступныя беларускія арганізацыі зьмянілі свой адрыс:

1. Fr. Skoryna Greatlithuanian Society of Arts & Sciences in the USA, Inc.
2. Lew Sapieha Greatlithuanian Foundation.

Іхны адрыс цяпер гэткі:
127 Chestnut Street,
Boonton, N. J. 07005, USA.

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"**

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



# ДРУГІ БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

## ВЯЛІКАЕ СЬВЯТА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

Другі Беларускі Фэстываль 21 травеня сёлета ў Нью Джэрзі, падобна як і леташні першы, а як аднагодна ўважалі арганізатары, удзельнікі праграмы й наведвальнікі абодвых, у яшчэ большай ступені, чымся першы, стаўся ўзапраўды імпазантным сьвятам беларускага нацыянальнага мастацтва й культуры. Пры гэтым, быў ён сьвятам не лякальнага, абмежанага да Нью Джэрзі, Нью Ёрку ды іншых сумежных штатаў ЗША, а культурнай падзеяй агульнаамэрыканскага характару, энтузіястычныя водгукі пра які гучным рэхам адбіліся й у заакіянскіх краёх пасяленьня беларускае эміграцыі.

Лішнім спыняцца тут над мастацкім узроўнем Фэстывалю ды даваць ацэны паасобным мастацкім выступленьням і пунктам праграмы. Пра ўсё гэта даволі вымоўна гавораць зьмешчаныя далей фотаздымкі ды ацэны кампэтэнтных мастакоў і мастацтвазнаўцаў, сваіх і чужых, як і прэсы. Можна дый **трэба** сказаць **адно:** бяручы ўвагу на нашыя ненармальныя эміграцыйныя абставіны ды раўнуючы да розных ранейшых лякальных паказаў мастацкага профілю, Беларускі Фэстываль, не зважаючы на некаторыя ягоныя пралікі й недахопы, узноў-жа няўхільныя ў падобным выпадку, быў на недасягальнай раней вышыні з кажнага, нятолькі мастацкага, гледзішча. Фэстываль выявіў вялікую творчую жыцьцяздольнасьць беларускае эміграцыі, ейныя арганізацыйныя здольнасьці й прыроджаную беларускаму народу таленавітасьць, а галоўнае — ейны глыбокі нацыянальны патрыятызм і шчырае жаданьне, прадыктаванае гэтым патрыятызмам, годна рэпрэзэнтаваць беларускае імя перад сьветам.

На першы пагляд магло-б здавацца, што галоўным заданьнем і дасягненьнем Фэстывалю й быў гэны рэпрэзэнтацыйна-вонкавы аспэкт, які паглыбляў сымпатыі да Беларусаў сярод іхных прыяцеляў у амэрыканскім асяродзьдзі ды здабываў новых сымпатыкаў сярод людзей да нас абыякавых, што раней вельмі мала або й нічога ня ведалі пра Беларусь. З аднаго боку гэта так. Але ані не памяншаючы рэпрэзэнтацыйна-прапагандавай ролі Фэстывалю, на нашую думку, ці не важнейшымі яшчэ былі ягоныя іншыя аспэкты.

У сваёй прамове на адчыненьне Фэстывальнага Канцэрту, д-р Янка Запруднік ад імя Беларускага Фэстывальнага Камітэту ня выпадкова кінуў заклік: „... **прысьвяцем-жа гэтую праграму, якой Вы будзеце зараз цешыць сябе, змаганьню беларускага народу ў Савецкім Саюзе супраць русыфікацыі за захаваньне свае нацыянальнае мовы й культуры**". Не дарма-ж, гэтыя словы былі потым падхопленыя й некаторымі амэрыканскімі газэтамі й у вадпаведнасьці зь інтэнцыямі прамоўцы правільна асэнсаваныя.

У паняволенай Беларусі ў выніку крывадушнае г. зв. ленінскай нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі праводзіцца асабліва абнаглелая сяньня шырака разгалінаваная русыфікацыя: псыхалягічная, культурная, моўная ... Родная мова беларускага народу выціснутая з публічнага жыцьця краю й падмененая мовай расейскай, як другой роднай мовай беларускага народу з пэрспэктывай стацца роднай мовай першай і адзінай. Беларуская мова штораз радзей гучыць і на сцэнах розных мастацкіх аглядаў, конкурсаў і фэстываляў. Апошнім часам прыкметна ўзмоцніўся паход супраць беларускай народнай вопраткі, гэтага неацэннага скарбу народнае спадчыны. Заміж традыцыйнага беларускага народнага адзеньня, на сцэнах і канцэртных пляцоўках штораз часьцей пярэсьпяцца тыпова расейскія сарафаны й какошнікі або бязгустоўныя псэўданародныя хвальшыўкі. Пра гэты зьдзек над беларускай нацыянальнай культурай шырака пішацца амаль у кажным нумары газэты „Беларус", як прыкладам, у артыкуле „Ў вабароне беларускага мастацтва" ў папярэднім нумары газэты, а адначасна падтрымліваюцца спробы беларускіх патрыётаў на бацькаўшчыне ў вабароне гэтага мастацтва перад русыфікацыяй.

Вось-жа ў вабліччы гэтага русыфікатарскага шалу леташні першы, а яшчэ больш сёлетні другі Беларускі Фэстываль быў моцным голасам пратэсту супраць зьдзеку маскоўскага акупанта з нашых нацыянальных скарбаў і адначасна прызнаньнем і падтрыманьнем усіх тых, што ўсякімі магчымымі спосабамі бароняцца перад русыфікацыяй. Якраз у гэтым асаблівае значаньне й роля Беларускага Фэстывалю, а таксама й падобных іншых, больш ці менш абмежаных тэрытарыяльна, але ня менш зыркіх сваім нацыянальным характарам, мастацкіх мерапрыёмстваў, як, прыкладам, штогадовыя мастацкія выстаўкі ў Саўт Рывэры або таксама штагадовы фэстываль-Караван у Канадзе ды шмат падобных імпрэзаў у іншых гарадох ЗША й за акіянам.

З увагі на гэтую спэцыфічную ролю мастацкай рэпрэзэнтацыі неабходна заўсёды захоўваць высокую патрабавальнасьць да саміх сябе, каб вынесьці на агульны паказ толькі тое, што з нацыянальна-палітычнага й таксама мастацкага боку ўзапраўды вартае паказу. З думкаю пра гэта, трэба вельмі асьцярожна падходзіць у будучыні й да выбару канцэртнага рэпэртуару, і да народнага адзеньня, высьцярагаючыся, каб выпадкова й несьвядома ня трапіла заміж беларускага, чагосьці чужога або псэўдабеларускага.

І яшчэ адзін аспэкт Фэстывалю, нутрана беларускі, калі гэтак яго назваць, заслугоўвае на асаблівае заакцэнтаваньне, які датычыцца беспасярэдня да нашай моладзі. У вакальнай праграме Фэстывальнага Канцэрту значная ўдзельная вага належала моладзі, а ў праграме харэаграфічнай удзел моладзі быў вылучны. Моладзь ахвотна прыймала ўдзел у паказе народнага адзеньня, у выстаўцы народнага мастацтва й іншых выстаўках дый у арганізацыйным камітэце Фэстывалю ўдзел моладзі быў ня толькі фармальны, а й фактычны. Наагул-жа, як падчыркнулі й некаторыя амэрыканскія газэты, моладзь надавала галоўны тон усяму Фэстывалю. Моладзь гэтым добра засьветчыла, што ажыўленьне арганізацыйнага жыцьця нашай моладзі, пачатае стыхійна колькі год таму, дало багаты плён. А моладзь — гэта-ж натуральная маладая зьмена нас старэйшых пры стырне беларускага нацыянальнага руху ў Вольным Сьвеце. Сьвядомасьць гэтага дыктуе нашаму старэйшаму грамадзтву й беларускім арганізацыям розных профіляў адказны, але й пачэсны абавязак усьцяж памагаць як ідэйна й маральна, гэтак і матарыяльна нашай моладзі й выдатна спрычыняцца да таго, каб гэты маладзежны ўздым, выяўлены найшырэй на Фэстывалі, ніколі не ападаў, а быў зьявай сталай, усьцяж прагрэсуючай і пэрспэктыўнай.

**Ст. Станкевіч**

## УСТАНАЎЛЕНЬНЕ ЗАКАНАМЕРНАСЬЦІ

Заданьнем Другога Фэстывалю было давесьці, што першы ня быў выпадковасьцяй. У наважанасьці брацца за працу гэтым разам адчувалася псыхалягічная патрэба самаўпэўніцца, што ўсе цяжкасьці падуладныя скаардынаванаму высілку грамады. А сёлета іх было аніяк ня менш, як летась, пагатоў, што й праграму на гэты раз закроілі шырэйшую. Дазнаньне зь леташнім Фэстывалем, пэўне-ж, крыху памагло, але якое-б ні было дазнаньне, нічога не заменіць асноўнага элемэнту ўдачы — працы, напорнае нясупыннае працы. Калі пасьля першага можна было думаць і сяк і так, дык цяпер, пасьля двух фэстываляў, можна з пэўнасьцяй сказаць: фэстывалі ў ньюджэрзійскім Цэнтры Мастацтваў нам пад сілу, калі група людзей згаджаецца добра папрацаваць напрацягу колькіх перадфэстывальных месяцаў. У дасюлешніх дзьвюх удачах быў таксама й пэўны элемэнт шансу — надвор'е, што ў вабодвых выпадках было на баку Беларусаў — але, як ведама, бяз рызыкі тут не абыдзешся.

Падтрымліваючы намер арганізаваць Другі Фэстываль, кажны з удзельнікаў падтрымліваў, сьведама ці нясьведама, адзін вельмі здаровы прынцып: у канкрэтнай супрацы нараджаецца новае сяброўства, мацуецца старое, зьнікае недавер.

Важным маральным фактарам у пастанове йсьці наперад былі таксама шчырая прыязьнь, дазнанасьць ды руплівая дапамога парадаю й чынам з боку дырэктара Культурнага Фонду ньюджэрзійскага Цэнтру Мастацтваў сп. Фрэдэрыка Вэка, заслуга якога вялікая ў удачах і першага, і другога фэстываляў.

## ПРА ФЭСТЫВАЛЬ НАПЯРЭДАДНІ

Фэстываль звычайна атаесамляецца з канцэртам, але канцэрт, хоць і галоўная частка праграмы — далёка ня ўсё. Фэстываль перш-наперш, бяручы хранальгічна, гэта пашырэньне інфармацыі пра дзейнасьць беларускае грамады (а значыцца, і пра Беларусь). Сёлета, прыкладам, да Фэстывалю было разаслана паштовую дарогаю з Цэнтру Мастацтваў найменш 14 тысячаў экзэмпляраў інфармацыйнае літаратуры пра Беларускі Фэстываль. Беларускі Фэстываль занесены таксама на агульны каляндар Цэнтру Мастацтваў, што рассылаецца шматтысячным тыражом на розныя адрысы сваім шляхом бяз нашага ў гэтым удзелу. Пра беларускія фэстывалі паведамляюць розныя амэрыканскія й этнічныя газэты, друкуючы платныя й няплатныя абвесткі, а часамі даволі дэтальна апісваючы ягоную праграму.

Сёлета, як і летась, падрабязна падала пра Фэстываль папулярная ў раёне Нью Ёрку, Нью Джэрзі й Канэктыкэт польская радыяпраграма Двух Эдвардаў. Пра Другі Беларускі Фэстываль сёлета падавалі ньюджэрзійскія газэты й бюлетэні: „Штатавы Прэсавы Камунікат", „Рэд Банк Рэкорд", „Гоўм Ньюз", „Амэрыкэн Этнік", „Народна Воля", „Атлянтык Сіты Прэс", „Асбуры Парк Прэс", „Сэнтынэл", „Пэрт Амбой Прэс" ды ньюёркаўскае „Новое Русское Слово".

Асабліва наскрозь паамэрыканску арыгінальныя былі рэклямы Фэстывалю, зробленыя на вялікіх дошках Кіраўніцтвам Дарог на вялікай аўтастрадзе каля Цэнтру Мастацтваў Нью Джэрзі, як паказана на фотаздымку ніжэй.

Фота: Аўгена Грушы

## ГУБЭРНАТАР НЬЮ ДЖЭРЗІ БРЭНДАН БЭРН УШАНАВАЎ БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

**Губэрнатар штату Нью Джэрзі Брэндан Бэрн падпісвае праклямацыю на Беларускім Фэстывалі. Справа ад яго Дырэктар Выканаўчага Органу Цэнтру Мастацтваў сп. Джозэф Каррагэр, а зьлева Старшыня Беларускага Фэстывальнага Камітэту д-р Вітаўт Кіпель.**

**Усе фотаздымкі з Фэстывалю, за выняткам некалькіх, пад якімі названыя фатографы, выкананыя сп. А. Сільвановічам.**

Без папярэджаньня й незаўважна ў залі тэатру зьявіўся Губэрнатар штату Нью Джэрзі Брэндан Бэрн і, заняўшы вольнае месца, пачаў уважліва глядзець на моладзь, якая выконвала беларускую польку. Аднак нехта побач Губэрнатара пазнаў яго, і адразу каля трох тысячаў Беларусаў наладзілі Губэрнатару бурную авацыю. Тады Губэрнатар, выйшаўшы на трыбуну на сцэне, пад усьцяж бурныя апладысмэнты, што ні на хвіліну не змаўкалі, падпісаў праклямацыю, якая ў перакладзе на беларускую мову гучыць гэтак:

„**Дзеля таго, што** Амэрыканцы беларускага паходжаньня выдатна спрычыніліся да эканамічнага, грамадзкага й культурнага жыцьця штату Нью Джэрзі; і

**Дзеля таго, што** Беларуска-Амэрыканская Грамада ўсьцяж выяўляла й выяўляе сваю адданасьць прынцыпам, на якіх будавалася Амэрыканская Нацыя; і

**Дзеля таго, што** жыхарства штату Нью Джэрзі ўзапраўды шчасьліва падзяляць і мець частку Беларускае Спадчыны; і

**Дзеля таго, што** Беларуска-Амэрыканская Грамада штату Нью Джэрзі адзначае сыботу 21 травеня Другім Фэстывалем Беларускае Спадчыны ў Цэнтры Мастацтваў штату Нью Джрзі, —

Я, Губэрнатар штату Нью Джэрзі, Брэндан Бэрн, абвяшчаю дзень 21 травеня 1977 году **Днём Беларускага Фэстывалю ў штаце Нью Джэрзі**".

## НА ПЛЯЦЫ

Фэстываль, фактычна, гэта цэладзенны, шматлюдны, бязупынны паток падзеяў, здарэньняў, выпадкаў, сустрэчаў, кантактаў, а для арганізатараў — мітусьлівае беганіны, нэрваў ды сьцягваньня канцоў з канцамі. Аднэй асобе немагчыма ўсюды пабыць, усё пачуць і пабачыць. Вось што падае сп-ня Зора Кіпель, якая каардынавала частку дзейнасьці на пляцы, пра розныя выстаўкі, што адбываліся пад вялікім шатром:

## ВЫСТАЎКА НАРОДНАГА МАСТАЦТВА Й ІНШЫЯ

1. Вялікая й густоўна аформленая выстаўка народнага мастацтва. Выстаўленыя былі вырабы беларускіх майстроў у Амэрыцы, а таксама й вырабы зь Беларусі. Тут былі й старыя аўтэнтычныя тканіны, прылады ткацтва й прадзеньня, вышыўкі, вырабы з саломкі, лёну, дрэва. У „беларускай хатцы" — куце дэманстравалася тэхніка тканьня паясоў (сп-ня Марыя Зьгірская) і прадзеньня (сп-ня Надзя Кудасава). Выстаўка была наладжаная пад кіраўніцтвам сп-ні Надзі Кудасавай.

2. Новай сёлета была выстаўка фатаграфіяў з жыцьця Беларусаў Амэрыкі, вельмі ўдала запачаткаваная й выкананая сп. А. Сільвановічам.

3. Цікавай была выстаўка абразоў і скульптураў беларускіх мастакоў Амэрыкі, наладжаная сп-няй Людай Махнюк.

4. „Пазнай свае карані" — новы элемэнт у сёлетнім Фэстывалі: дэталёвая карта Беларусі, апрацаваная сп. Юркам Станкевічам. Наведвальнікі мелі нагоду знайсьці на карце сваю мясцовасьць ды адпаведным значком „паставіць сябе на карту". Тут-жа даваліся й тлумачэньні пра Беларусь і Беларусаў шмат якім карэспандэнтам і наведвальнікам не-Беларусам.

5. Працавала шмат стэндаў продажу сувэніраў, наладжаных рознымі арганізацыямі й асобамі. Стэнды сёлета былі ўзбагачаныя новымі цікавымі рэчамі: шпількі й кулоны вышытыя сп-няй Юляй Андрусышынай; падвескі із серабра й бурштыну, адаптаваныя із старасьвецкіх беларускіх упрыгожаньняў, беларуская цыраміка, настольныя падсьцілкі, кубкі з народным арнамэнтам і напісам „На здароўе", кружэлкі, іконы ды шмат, шмат іншага. Былі ў продажы й традыцыйныя жывыя васількі з жытнімі каласкамі й бел-чырвона-белым сьцяжком. Васількі выгадавала й нарыхтавала сп-ня Апалёнія Савёнак.

Сувэнірнымі стэндамі кіравалі сп-ні Валентына Шудзейка й Валентына Рагалевіч.

6. Пад даўгім шатром наведвальнікі мелі магчымасьць — і не прапушчалі нагоды, каб ня выкарыстаць яе — падсілкавацца смачнымі беларускімі стравамі, нарыхтаванымі жанчынамі з трох беларускіх цэркваў: Гайлэнд Парку, Саўт Рывэру й Рычманд Гілу.

На пляцы ўвесь час гучэла прыгожая беларуская музыка, падаваная праз галосьнік, а таксама праз адмысловую апаратуру із студыі нашага ведамага музыкі Алекса Мартыновіча.

**ПАШЫРАЙЦЕ ГАЗЭТУ "БЕЛАРУС"! ХАЙ КАЖНЫ ЕЙНЫ ПРЫХІЛЬНІК ПРЫДБАЕ ПРЫНАМСЯ АДНАГО НОВАГА ПАДПІШЧЫКА У 1977 ГОДЗЕ!**

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011





**На выстаўцы ў „беларускай хатцы" — куце Архімандрыт Язэп Строк цікавіцца сакрэтам прадзеньня Надзі Кудасавай.**



**Фрагмэнт паказу беларускага народнага адзеньня. . .**



**Заўсёды было рухліва пры стэньдзе беларускіх сувэніраў**



**. . . а вось удзельнікі паказу зблізку**

## ПАКАЗ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА АДЗЕНЬНЯ

Паказ беларускага народнага адзеньня сёлета быў пашыраны й эфэктыўна праведзены на сходах і пляцы ў цэнтры парку. Сярод касьцюмаў з розных мясцовасьцяў Беларусі былі ў васноўным касьцюмы жаноцкія й дзявоцкія, але таксама, хоць і ў меншай колькасьці, мужчынскія й навет дзяцей. Усе касьцюмы былі падрыхтаваныя мастачкай Ст. Тамарай (Кольба) з дапамогаю сп-няў Лізы Літаровіч і Ніны Сільвановіч ды прыгожа выкананыя найчасьцей самымі мадэлькамі ці іхнымі маці, жонкамі, сёстрамі. Тлумачэньні пра касьцюмы ў часе паказу чытала Ніна Запруднік.

Над пляцом сёлета разьвіваўся на фоне сіняга сонечнага неба наш бел-чырвона-белы нацыянальны сьцяг.

**Удзельнікі паказу вопраткі.** Мастачка Ст. Тамара (Кольба) падае прозьвішчы беспасярэдніх і пасярэдніх удзельнікаў паказу касьцюмаў, што сваёй ахвярнасьцяй, шыцьцём, вышываньнем, вязаньнем, парадай ды асабістым удзелам у паказе спрычыніліся да ягонае ўдачы, ды пры гэтым шчыра дзякуе ўсім наступным:

З. Кіпель, Л. Літаровіч, Н. Сільвановіч, сп-ва Трусэвічы, Н. Захаркевіч, В. Рагалевіч, М. Рагалевіч, М. Стагановіч, А. Савёнак, А. Цярпіцкая, сп-ва Драздоўскія, А. Лысюк, В. Бартуль, М. Міцкевіч, З. Станкевіч, С. Каранеўская, Г. Каранеўская, Л. Махнюк, А. Шукелойць, І. Касьцюк, Л. Русак, Р. Станкевіч, С. Рагалевіч, Э. Войтанка, Р. Войтанка, А. Войтанка, Н. Кудасава, Е. Пашкевіч, Ю. Грыцук, Ф. Бартуль, А. Бартуль-Зінкевіч, А. Кіпель, В. Каранеўская, Л. Лысюк, С. Драздоўская, Л. Рагалевіч, Ю. Стагановіч, Л. Трэмблі, Л. Касьцюк, А. Бартуль, Н. Махнюк, Ул. Русак, К. Стагановіч, Н. Цярпіцкая, І. Азарка, В. Тумаш малодшы, Н. Запруднік.



**Марыя Зьгірская із Саўт Рывэру дэманструе тканьне народных паясоў, як яно адбываецца на бацькаўшчыне.**

## ФЭСТЫВАЛЬНЫ КАНЦЭРТ

Сёлетняя праграма зрабіла, бадай, лепшае ўражаньне за леташнюю, асабліва народныя танцы. Усе нумары, за выняткам пары, былі ўспрынятыя цёпла, некаторыя энтузіястычна. Сёлета выступілі: Мяшаны хор камп. Д. Верасава, Жаноцкі хор „Каліна" камп. К. Барысаўца, Жаноцкі сэкстэт „Гоман", Аркестра „Нова", танцавальныя гурткі „Васілёк" і „Лянок", дуэт, салістыя.

Канцэрт пачаўся амэрыканскім гімнам у выкананьні салісткі Іры Каляды ды прывітальнымі словамі Дырэктара Цэнтру Мастацтваў сп. Каррыгера й Старшыні Беларускага Фэстывальнага Камітэту др. Вітаўта Кіпеля.

Вельмі глыбака ў душу слухачоў (пра гэта ціадзін казаў пасьля) запалі словы малітвы-гімну „Магутны Божа", апрацаванага кампазытарам Д. Верасавам у выкананьні салістага-баса Пётры Конюха ды хору пад кіраўніцтвам кампазытара.

Багаты й поўны голас салістага-баса Пётры Конюха, ягонае глыбокае адчуваньне малітоўнасьці песьні ды здольнасьць перадаць гэты настрой, а таксама гарманійнае спалучэньне салёвага й харавых элемэнтаў выклікалі ці ў ваднаго із слухачоў сьлёзы эстэтычнае ўсхваляванасьці ды замацавалі да канца канцэрту ўражаньне сьвятыні мастацтва.

Пасьля выкананьня „васількамі" „Бульбы" др. Янка Запруднік, вітаючы слухачоў-глядачоў у ангельскай і беларускай мовах, сказаў: **„Ушануйма нашую новую Бацькаўшчыну, Амэрыку, згадкай пра стары край, сінявокую Беларусь зь ейнымі мэлядыйнымі песьнямі, грацыёзнымі танцамі, шматколернай народнай вопраткай ды ейнымі цудоўнымі людзьмі. Няма больш фундамантальнага права, як права на перахоўваньне й разьвіваньне свае культурнае спадчыны. У гэтым першым годзе трохсотгодзьдзя Задзіночаных Штатаў, калі людзкія правы сталіся, у вялікай меры дзякуючы Прэзыдэнту Джымі Картэру, паважнай міжнароднай праблемай, прысьвяцем-жа гэтую праграму, якою Вы будзеце зараз цешыць сябе, змаганьню беларускага народу ў Савецкім Саюзе супраць русыфікацыі за захаваньне свае нацыянальнае мовы й культуры".**

## БЕЛАРУСЫ ВОЛЬНАГА СЬВЕТУ БЕЛАРУСКАМУ ФЭСТЫВАЛЮ

Належна дацэньваючы нацыянальную ролю Беларускага Фэстывалю ў Нью Джэрзі, нашыя суродзічы ў розных штатах і гарадох Амэрыкі, а таксама ў заакіянскіх краёх жыва цікавіліся сёлетнім Беларускім Фэстывалем і перасылалі свае пажаданьні ягонае ўдачы. У якасьці прыкладу, зьмяшчаем ліст Беларускага Цэнтральнага Камітэту Аўстраліі, перададзены асабіста адмыслова прыбылым на Фэстываль Беларусам з гораду Мэльбурну ў Аўстраліі сп. Аўгенам Грушам:

**ПРЫВІТАНЬНЕ АРГАНІЗАТАРАМ І ЎДЗЕЛЬНІКАМ БЕЛАРУСКАГА ФЭСТЫВАЛЮ Ў ЗША**

Ад імя Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі, Аўстралія, вітаем Арганізатараў і Ўдзельнікаў 2-га Беларускага Фэстывалю ў ЗША й жадаем посьпеху ў пашырэньні й сярод сваіх, і сярод усіх людзей у сьвеце веды аб нашай Бацькаўшчыне Беларусі, ейнай культуры, мастацтве й фальклёры.

Мы ў Аўстраліі пільна сочым і цэнім Вашыя высілкі аб'яднаць тымчасам у рамах фэстываляў усіх Беларусаў, каб паказаць сьвету й нашым суродзічам на Бацькаўшчыне, што, не зважаючы на шматлікія розьніцы паміж намі, мы на эміграцыі творым адну вялікую беларускую сям'ю.

Жыве Беларусь у змаганьні!

**За Ўправу Беларускага Цэнтральнага Камітэту**

**(-) М. Нікан, Сакратар**
**Перадаў Аўген Груша,**
**Заступнік старшыні Камітэту**

**"БЕЛАРУС" — ЗАПРАЎДНЫ ГОЛАС ГРАМАДЗКАСЬЦІ. ДЫК І ГРАМАДЗКАСЬЦЬ ПАВІННА ДАЦЬ ЯМУ НАЛЕЖНАЕ ПАДТРЫМАНЬНЕ!**

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011





**У масавай фінальнай сцэне гучаць словы песьні „Божа, благаславі Амэрыку", дружна падхопленыя глядачамі.**

## МЯШАНЫ ХОР КАМПАЗЫТАРА ДЗЬМІТРА ВЕРАСАВА



**Хор камп. Д. Верасава** выступіў сёлета ў складзе: **сапраны**: Л. Махнюк (салістка), М. Бойчук, В. Камінкова, Г. Каранеўская, Н. Махнюк, Н. Цярпіцкая; **альты**: Р. Касьцюк (салістка), І. Касьцюк (салістка), Л. Бахар, Г. Войтанка, Ліза Літаровіч, Людміла Літаровіч, М. Літаровіч, Н. Орса, А. Цярпіцкая: **тэнары**: В. Цярпіцкі (салісты), П. Блін, М. Вах, С. Жамойда, У. Літаровіч, А. Лысюк, М. Манцывода, С. Навумчык, Ю. Станкевіч, Я. Цыган, Ул. Шульжыцкі; **басы**: П. Конюх (салісты), Я. Запруднік, а. прат. А. Махнюк, Ж. Навумчык, М. Палюховіч, Ул. Сітнік; акампаніявала на піяніне М. Рудак.

Выступіўшы ў трох месцах праграмы, хор выканаў: „Магутны Божа", „Пасею гурочкі", „Калыханка", „Залёны дубочак", „Чаму-ж мне ня пець", „Вясёлы майстра". Хор прагучэў вельмі добра, зладжана, з адценьнямі, у тэмпе. Адчувалася моцная рука дырыгента й ягоная ўдумлівая інтэрпрэтацыя мэлёдыяў.

## ТАНЦАВАЛЬНЫ ГУРТОК "ВАСІЛЁК"



**Заканчэньне танцу „Карагод-пераплёт" у выкананьні „Васілька" із салёвым выступленьнем Алекса Рудзінскага**

**Танцавальны Гурток „Васілёк" зь Нью Брансьвіку пад кіраўніцтвам Алы Орса-Рамана**, які выступаў уперамешку зь іншымі канцэртнымі нумарамі аж шэсьць разоў, выканаў гэткія беларускія народныя танцы: „Бульба", „Полька-Янка", „Полька-Вянок", „Мікіта", „Смургонская Кадрыля", „Карагод-пераплёт". Склад гуртка наступны: **дзяўчаты**: А. і М. Бойчук, Р. Гутырчык, Л. Данілюк, Н. і В. Запруднік, А. Зінкевіч, А. Кіпель, П. Лысюк, Л. Плісік, Н. і Л. Русак, І. і Л. Сільвановіч; **хлопцы**: Ю. Азарка, Л. Войтанка, В. Зінкевіч, А. Кажура, Ю. Кіпель, П. Рамана, А. Рудзінскі, В. Тумаш, М. і К. Швэд.

Зь нязвычайна бурнымі й цёплымі авацыямі былі спатыканыя й праводжаныя выступленьні „Васілька", які густоўнай пярэстасьцяй умела стылізаваных пад народныя каляровых касьцюмаў, юнацкім задорам і лёгкай гарэзьлівасьцяй танцорак і танцораў ды беззаганным, дзе трэба скочным і завірушлівым, а дзе трэба, плаўным тэхнічным выкананьнем проста чараваў глядачоў. Гэта довад, што кіраўнічка групы Ала Орса-Рамана ўлажыла шмат працы, прафэсыйнага ўменьня й любасьці да роднага мастацтва, што добра адчулі маладыя танцоры й танцоркі, выконваючы свае нумары на высокім узроўні. Дзякуючы гэтым сваім якасьцям, „Васілёк" мае ўсе асновы называцца народным харэаграфічным ансамблем.



**„Васілёк" у народным танцы „Смургоньская кадрыля"**

## ЖАНОЦКІ ХОР "КАЛІНА"



**Жаноцкі Хор „Каліна" із Саўт Рывэру пад кіраўніцтвам камп. Ксавэра Барысаўца** выступіў сёлета ў складзе: (**салісткі**) Р. Касьцюк і Л. Махнюк; (**харысткі**) В. Бартуль, Н. Барысавец, Г. Войтанка, М. Войтанка, В. Камінкова, Г. Каранеўская, Л. Літаровіч, Людм. Літаровіч, М. Літаровіч, А. Лысюк, Л. Маркоўская, Н. Махнюк, Г. Орса, А. Цярпіцкая; акампаніявала на піяніне Р. Сямёнава.

Хор выканаў: „Ціхі вечар", „Шумяць лясы", „Ой, пайду я, выйду", „Люблю наш край", „Цераз сад-віноград". Хор „Каліна" даўно ведамы на беларускай і амэрыканскай сцэнах. У якім-бы складзе ён ні выступаў, ён адзначаецца мяккім прыемным тэмбрам, адчуваньнем характару песьні й лірызмам. „Каліна" ладня ўзбагаціла праграму сёлетняга Фэстывалю.

## ЖАНОЦКІ АНСАМБЛЬ-СЭКСТЭТ "ГОМАН"



**Фота: Мікалая Заморскага**

Жаноцкі Ансамбль-Сэкстэт „Гоман" зь Нью Ёрку ў складзе Веры Бартуль, Веры Заморскай, Лізы Маркоўскай, Алы Орса-Рамана, Галіны Орсы й Гаі Тэдон выканаў, пад акампаніямант на піяніне Ніны Запруднік, тры песьні: „Вясна", „Купалінка" й „Ой, борам-борам".

Бяз удзелу Ансамблю-Сэкстэту „Гоман" ад даўжэйшага часу ўжо не абыходзіцца ніводная нацыянальная ўрачыстасьць і канцэртная імпрэза ў Нью Ёрку, а ягонае выкананьне асабліва беларускіх народных песьняў стаіць на ўзроўні прафэсыйнага майстроўства. Ансамбль-Сэкстэт „Гоман", падобна як і Жаноцкі Хор „Каліна", быў добрым дапаўненьнем да моцных інтанацыяў Мяшанага Хору Д. Верасава. Галоўнай рысай Ансамблю-Сэкстэту „Гоман" — гэта жаноцкая мяккасьць тонаў ды прэцызыйнае ўвыпукленьне лірычнай цяплыні й народнай мэлядыйнасьці.

## ТАНЦАВАЛЬНЫ ГУРТОК "ЛЯНОК"



**Танцавальны гурток „Лянок" выконвае танец „Яшчурок"**

**Танцавальны Гурток „Лянок" із Саўт Рывэру пад кіраўніцтвам сп-ні Вілы Леўчук**, які таксама, як і „Васілёк", выступаў уперамешку паміж іншымі канцэртнымі нумарамі, паказаў сёлета вялікі поступ — і харэаграфіяй, і касьцюмамі, і выкананьнем танцаў „Вясна" (з удзелам салісткі-балерыны Ніны Норык), „Лявоніха", „Мяцеліца" ды „Яшчурок". Вялікі высілак кіраўнічкі гуртка й бацькоў танцораў шчодра аплаціўся ўдачаю на сцэне. Вельмі мілае пакінулі ўражаньне наймалодшыя з гэтай маладой групы, фактычна дзеці яшчэ. У танцах прыймалі ўдзел: Л. Арцюшэнка, Г. Бахар, М. Воргак, К. Гайшун, Л. Гайшун, С. Гэтман, Ж. Занкавец, Л. Занкавец, Н. Занкавец, І. Касьцюк, Н. Літаровіч, Марг. Літаровіч, М. Літаровіч, К. Лоер, А. Махнюк, Н. Махнюк, С. Медзьвядок, Л. Селіванава, Н. Сіцько, К. Хмура, Н. Хмура, С. Шурак, Л. Яначкіна, Л. Яцэвіч.

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



## ГІСТОРЫЯ ПІСАНАЯ І ПЯРОМ, І ЧЫНАМ

На навуковым паседжаньні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку, 11 чырвеня сёлета, рэфэрат „Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў ЗША" чытаў др. Вітаўт Кіпель. Гэтай тэме шмат увагі аддае др. Кіпель ад колькіх ужо гадоў. Тут ён на нікім яшчэ ня кранутай цаліне й, як дагэтуль, сам адзін. У пошуках статыстычных лікаў, дакумэнтаў, фактаў да гісторыі беларускае эміграцыі адбываў ён падарожжы і ў геткія далёкія штаты ЗША, як Аляска ці Гавайскія атокі Ціхога Акіяну.

У сувязі з тым, што рэфэрэнту споўнілася 50 гадоў, з угодкамі візу яго пасьля рэфэрату старшыня Інстытуту др. В. Тумаш. Зьвярнуў ён пры гэтым увагу на грунтоўнасьць, шырыню й шматбаковасьць навуковай і нацыянальна-грамадзкай актыўнасьці Юбіляра. Побач гісторыі эміграцыі, др. Кіпель ужо ад гадоў распрацоўвае й гісторыю Слуцкага паўстаньня ды, асабліва, рэха яго ў тагачасным друку Эўропы й Амэрыкі. У гэтай галіне кажны год знаходзіць ён новыя цікавыя матар'ялы, выяўляе новыя нязведамыя факты.

Асабліва важнае поле навуковае дзейнасьці Юбіляра — ягоная праца над беларусаведнай бібліяграфіяй. Дапамагае гэтай працы вылатна ягоная службовая зьвязанасьць з адной з найбольшых бібліятэкаў сьвету, Публічнай Бібліятэкай Нью Ёрку, у якой ён заступнікам дырэктара навуковага аддзелу. Хоць яшчэ не публікаваная, беларусаведная бібліяграфія др. Кіпеля ўжо цяпер была вялікай дапамогай і сваім, і чужым навукоўцам.

Чытаў др. Кіпель апошнімі гадамі й шмат рэфэратаў на беларускія тэмы ў Беларускім Інстытуце, на розных навуковых канфэрэнцыях ды на ўнівэрсытэтах і каледжах Амэрыкі — на Калюмбійскім Унівэрсытэце Нью Ёрку, на Каледжы Ўнівэрсытэту Места Нью Ёрку, на Квінс Каледжы, на Ратгерс Унівэрсытэце, на Каледжы Штату Мэрылэнд, на Ўнівэрсытэце Дэтройту.

Артыкулы й працы др. Кіпеля друкуюцца і ў беларускіх, і ў амэрыканскіх публікацыях. Сёлета, у 2-м томе 12-га выданьня вельмі важнага ў англамоўным сьвеце бібліяграфічнага даведніка The Reader's Advisor, кнігі, што абслугоўвае бібліятэкі ЗША, Канады, Англіі, Аўстраліі ды ўсе большыя бібліятэкі ўсіх кантынэнтаў сьвету, др. Кіпель першы раз увёў разьдзел беларускае літаратуры, з уводным гістарычным нарысам, зь інфармацыямі пра англамоўныя публікацыі аб беларускай літаратуры, пра беларускія творы ў ангельскім перакладзе й пра творы беларускіх аўтараў напісаныя паангельску. Сёлета таксама, у кнізе The New Jersey Ethnic Experience, дадзены на бачынаў 20, ілюстраваны нарыс др. Кіпеля пра гістрыю й нацыянальнае жыцьцё беларускае грамады штату Нью Джэрзі.

Праца навуковая толькі адна з важных галінаў актыўнасьці Юбіляра на беларускай ніве, весткі пра якую апошнімі гадамі часта сустракаюцца ў беларускім ды іншым друку. Дзякуючы ягонай перш за ўсё ініцыятыве й дынамічнасьці, маштабы беларускай нацыянальнай дзейнасьці ў ЗША апошнімі гадамі выдатна ўзрасьлі, гарызонты ж пашырылі й магчымасьці яскрэвей зарысаваліся. Гісторыю беларускай эміграцыі ў Амэрыцы Юбіляр піша ня толькі пяром, але й чынам.

Энэргія Юбіляра нявычэрпная. Ён у няспынных разьездах у беларускіх справах па сваім штаце Нью Джэрзі, па ЗША, увесь час у руху між Нью Ёркам, яго Публічнай Бібліятэкай, ды Капітолем і Белым Домам у Вашынгтоне.

Ставіць сьмелыя, ахвярнай працы вартыя, хоць і ня лёгкія агульна-нацыянальныя заданьні, уменьне захапіць імі іншых, талент згуртаваць іх да супольнае працы ды такт пры ёй іх утрымаць — гэта адзін з сакрэтаў удачы імпрэзаў шырокага размаху, што былі заініцыяваныя др. Кіпелем.

Сакрэт другі, гэта тое, што Юбіляр ставіць заданьні, якія адбіваюць жаданьні ўсёй беларускай патрыятычнай эміграцыі. Таму гэткі шырокі з усіх бакоў на іх водгук, таму масавае падтрыманьне, якое перасякае нарослыя між людзьмі бар'еры дзеля розьніцы палітычных паглядӑў, арганізацыйнае прыналежнасьці ці царкоўных юрысдыкцыяў.

Вітаючы зь 50-годзьдзем, др. В. Тумаш пажадаў Юбіляру ад імя Управы асабліва шмат здароўя, каб хапіла ня толькі часу, але й сілаў зрэалізаваць, свайму народу на карысьць, усе свае праекты й пляны.

У прызнаньне дасюлешніх заслугаў на навуковай і нацыянальна-грамадзкай ніве ды на памяць угодкаў, Юбіляру быў уручаны абраз прысутнага на вечары мастака Пётры Мірановіча „Вадапой на Дзьвіне". Букетам чырвоных ружаў была абдораная й сп-ня Зора Кіпель, ягоная верная памочніца ў нацыянальна-грамадзкай дзейнасьці. Былі адчытаныя пасьля прывітаньні ад далёкіх ад Нью Ёрку суродзічаў, між імі й тэлеграма ад старшыні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе сп-ні Івонкі Сурвілы. Вусна Юбіляра віталі сп. А. Шукялойць, сп-ня Н. Орса, сп. А. Рутман, др. С. Станкевіч, праф. А. Адамовіч.

Пасьля афіцыйнай часткі ўгодкавы вечар быў завершаны сяброўскім кактэйлем. У гаманкой атмасфэры зацягнуўся ён да позьняй ночы.

**Р. Максімовіч**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ СЭНАТАРА Б. ДОЛА ПРЫНЯТАЯ

Напярэдадні пачатку працы першае падрыхтавальнае фазы Белградзкае канфэрэнцыі для перагляду справы ўжыцьцёўленьня Гэльсінскага пагадненьня Сэнат ЗША зацьвердзіў прапанову Сэнатара Боба Дола, каб амэрыканская дэлегацыя ў Белградзе „выказала ясна й у нядвузначных словах адданасьць Амэрыканскага народу справе людзкіх правоў у кантэксьце канчальнага пашырэньня людзкое свабоды ў цэлым сьвеце". Рэзалюцыя заклікае амэрыканскую дэлегацыю ў Белградзе „дамагацца, каб парадак дня наступнае поўнае канфэрэнцыі ўключаў грунтоўнае абмеркаваньне ўсіх пагвалчаньняў заключнага Акту, асабліва тых, што маюць дачыненьне да ўнівэрсальных гуманітарных ідэалаў".

Як паведамлялася ў мінулым нумары „Беларуса", амэрыканскай урадавай камісіі перад еўным ад'ездам у Белград быў перададзены ад Галоўнай Управы БАЗА й БІНіМ-у мэмарыял пра пагвалчаньні людзкіх правоў на Беларусі.

Рэзалюцыя Сэнатара Б. Дола была падтрыманая Галоўнай Управай Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й усімі аддзеламі БАЗА праз сэнатараў сваіх штатаў, што судзейла канчатковаму зацьверджаньню гэтае рэзалюцыі.

## БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ НА ГАДАВЫМ ФЭСТЫВАЛІ

У нядзелю 12-га чырвеня ньюджэрзійскі аддзел Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі быў адным з арганізатараў і актыўным удзельнікам чароднага гадавога фэстывалю пры Мідлсэксім Каледжы ў штаце Нью Джэрзі. У фэстывалі ўзяло ўдзел каля 30-ёх нацыянальнасьцяў штату, на ім было панад 10 тысячаў людзей.

Адчыніўся фэстываль паказам нацыянальных касьцюмаў. Беларуская моладзь прадэманстравала блізу дзесяток касьцюмаў розных раёнаў Беларусі: Віленшчыны, Палесься, Віцебшчыны, Смаленшчыны, і г.д. Пасьля параду касьцюмаў адбыліся два канцэрты — адзін на дварэ, другі ў аўдыторыі. У канцэрце вельмі ўдала выступілі два беларускія танцавальныя гурткі: „Васілёк" і „Лянок".

Напрацягу цэлага фэстывальнага дня функцыянавала выстаўка беларускіх вырабаў, а таксама беларуская кухня. Пра адно й другое мы чулі вельмі шмат добрых водгукаў. Трэба сказаць, што мы шмат папрацавалі як перад фэстывалем, гэтак і ў часе яго, але ўсе мы былі вельмі задаволеныя з удачы.

Наш аддзел АБАМ чуецца забавязаным выказаць шчырую падзяку спадарыням, што дапамаглі нам пры выстаўцы й пры кухні: З. Кіпель, В. Леўчук, Г. Русак, Н. Кудасава, Н. Сільвановіч ,А. Лысюк, Кажура, М. Бойчук, Гутырчык, Войтанка, Ханяўка, Р. Касьцюк.

**Юрка Кіпель**

## ДВА СЬВЯТКАВАНЬНІ СЫБОТНЯЕ ШКОЛЫ У НЬЮ ЁРКУ



**Зьлева направа: Антон Бартуль, Вінцук Мерляк, Оля Трэлер, Анна Трэлер, Росьцік Трэлер, Крыся Захаркевіч, Нэнсі Захаркевіч, Паўлік Рамана й Коля Рамана.**

12 чырвеня сёлета ў залі Беларускай Праваслаўнай Царквы на Рычмонд Гіл пры Атлянтык эвэню 104-29 у Нью Ёрку Беларуская сыботняя школа адзначала дзьве падзеі зь ейнага жыцьця: заканчэньне школьнага году й разьвітаньне з вучнем школы Вінцуком Мерляком, які разам з бацькамі пераяжджаў на Флярыду.

Зыйшліся бацькі, сваякі дзяцей і прыяцелі школы. Настаўнікі падрыхтавалі праграму дзіцячай самадзейнасьці, якую склалі пераважна дэклямацыі ўсімі паасобнымі вучнямі беларускіх вершаў. Уважна, із задавальненьнем слухалі прысутныя вершы ўсіх вучняў. Асабліва прыемна, што й ня̆дайна запісаныя ў школу Анна, Оля й Росьцік Трэлеры таксама прыгожа дэклямавалі вершы ў роднай мове. Былі й даўгія выступленьні. Байку Ўладзімера Дубоўкі прачыталі Коля й Паўлік Рамана. А інсцэнізацыя народнае казкі „Умей пачакаць" (у выкананьні: Крысі Захаркевіч — пеўнік, Нэнсі Захаркевіч — курачка, Вінцук Мерляк — аўтар) выклікала буру воплескаў.

На заканчэньне праграмы — неспадзеўка. Выступіў Вінцук Мерляк як фокусьнік-чарадзей. Добра захаваная неспадзеўка-сакрэт спрычынілася да падняцьця настрою школьнікаў.

Праграму вяла настаўніца Зіна Станкевіч, якая пры гэтай нагодзе расказала прысутным і пра будні школьнае працы ды пра прычыны, што прымусілі займацца ў двух розных будынках. Вучня Вінцука Мерляка, што пакідаў школу, яна паставіла як прыклад дзеля насьледваньня для іншых. Вінцук толькі два разы з прычыны хваробы прапусьціў заняткі на працягу чатырох гадоў. „Як гэта прыемна сьцьвердзіць, што баязьлівы, маўклівы хлопчык, што спачатку ня ведаў беларускае мовы, за чатыры гады вырас у школе на нашых вачох на ўпэўненага ў сваіх выказваньнях і сьведамага свае беларускае спадчыны юнака, які добра апанаваў беларускую мову й, ад'яжджаючы, выказаў жаданьне й надалей трымаць з намі кантакт", — сказала настаўніца.

А на сталох чакалі ласункі, трэба было ўвіхацца. Вучань Антось Бартуль сказаў разьвітальную прамову, жадаючы сябру Вінцуку ўсяго добрага на новым месцы. Карыстаючы з нагоды прысутныя бацькі й госьці занялі месцы за асобным сталом і зычылі Сп-ву Мерляком посьпеху ў далейшым жыцьці ды ўспаміналі разам пражытыя ранейшыя гады.

Вясёлая, а часткава й сумная імпрэза паволі зьбліжалася да канца. Тады забрала голас Сп-ня Оля Трэлер (Мельяновіч). Яна падзякавала настаўніцам, што вучылі ў школе, і передала зьбраныя ёй на школьныя патрэбы грошы — на пісьмовыя прылады на год наступны. Асабліва расчульваў падарак дзяцей зь іхных заашчаджаных із собскае ініцыятывы пяняў на тую-ж мэту — на школьныя патрэбы. Яны сардэчна разьвіталіся із школай, прыракаючы спаткацца на наступны год.

Пакідалі залю з пачуцьцём задавальненьня, што былі ўдзельнікамі карыснай імпрэзы дзеля добрае справы. А малая вазачка зь беларускім узорам, нарысаваным здольнай спэцыялісткай цырамічных вырабаў Сп-няй Оляй Трэлер, будзе заўсёды прыпамінаць мне гэты дзень.

**Настаўніца**

## КАРАВАН У ТАРОНЬЦЕ

Караван адбываўся сёлета ад 17-га да 25-га чырвеня. Апісаньне беларускага павілёну „Менск", ладжанага, як і раней, нашай моладзяй, можна было-б пачаць з Атавы. У памешканьні сп-ва Сурвілаў, руплівыя дзяўчаты (Сурвілавы й Запруднікавы), зь ініцыятывы й пад наглядам сп-ні Івонкі Сурвілы, плянавалі як памастацку, з палатна, зрабіць гэрбы гарадоў Беларусі, этнаграфічную карту нашай Бацькаўшчыны зь ілюстрацыямі народнае вопраткі. Як ведама, усялякае пляваньне, а тым больш мастацкае, мае й шмат чаго празаічнага. Дык і даваліся аббегаць цімала крамаў, каб знайсьці, прыкладна, адпаведных колераў фільцавых матарыял ды розную іншую дробязь. А пасьля прыйшлі даўгія гадзіны адмерваньня, рысаваньня, дапасоўваньня, выразаньня, прышываньня. . . Гэтта надта не пагоніш. У „людзі-ж паказацца трэба", дык усё мае быць зроблена старанна, гладка, прыгожа.

І гэтак праўду даўгую сьцяну павілёну аздобілі прыгожа выкананыя гэрбы дванаццацёх беларускіх гарадоў. Дарэчы, нас у прыватнасьці цікавіць, згодна якога правіла адбыўся падбор ушанаваных гарадоў? Чаму, прыкладна, побач Вільні, Смаленску, Менску й Полацку ды іншых першае вагі нашых цэнтраў зьявіліся Ашмяна й Пружаны? Чым гэтыя два апошнія важнейшыя, скажам, за Тураў і Слуцак? Здарыліся, ведама, і кур'ёзы. Замік „Берасьце", атрымаўся „Берасьцень", і заміж „Навагрaдак" крыўдзіў вока чужынцамі перайменаваны „Навагрудак". Прыкрыя недагляды.

Там-жа, пад гэрбамі, між экспанатаў вышыўкі, тканінаў, саломкі й разьбы цэнтральнае месца занялі прыгожа рукой выпісаныя інфармацыі пра Беларусь: яе эканоміку, культуру, народ, гісторыю, эміграцыю ў Канадзе. Асабліва цікава прыдумяныя былі параўнаньні Беларусі з Канадай. У параўнаньні зь мінулымі выстаўкамі гэта была вялікі плюс, бо мясцовы наведвальнік змог шырэй пазнаёміцца зь Беларусяй. Праўда, было-б яшчэ лепш, каб інфармацыі тыя больш скандэнсаваць.

Бурмістрам павілёну сёлета, як і летась, быў сп-р Сладкоўскі, а „міс Менск" — прыгожая Юльляна Грыцук. У васноўным мастацкая праграма ня розьнілася ад леташняй. Да танцаў граў Валодзя Рагуля на акардыёне, а танцоры, — мясцовыя і „Васількі" зь Нью Брансьвіку, выконвалі „Вяночак", „Таўкачыкі" й „Лявоніху". Прыкметкае ўздужэньне й упэўненасьць у ягоным добрым выкананьні песень заўважалася ў сп-ра Д. Андрусышына, дзякуючы якому аўдыторыя найчасьцей чула „Ручнікі" й цудоўную „Беларусачку", а радзей „У гушчарах" ці „Спадчыну". Канцэрт камэнтавала сп-чня Алеся Кіпель. Кухня, як і летась, частавала гасьцей добра нарыхтаванымі мясцовымі нашымі гаспадынямі беларускімі стравамі. Ім за гэта, бязумоўна, вялікая падзяка, а мо найбольшая галоўнай арганізатарцы — сп-ні Валентыне Пашкевіч.

Навіною сёлета на выстаўцы была старая беларуская ікона. Побач, пад шклом, на паказ, ляжала колькі кніжак, — пераважна ў ангельскай мове — пра Беларусь. Нажаль, як і раней, на продаж, ані кніжак, ані ніякіх іншых сувэніраў ня было. У Тароньце было звыш 50 павілёнаў розных нацыянальнасьцяў. Наведвальнікі ахвотна куплялі сувэніры й друкаваны матарыял. Беларускі павілён Менск вырозьніваўся тым, што там ня купіш аніякай цацкі-сувэніру, ані якой кніжкі. Кружэлка песьняў Д. Андрусышына каштавала 6 дал., а зацікаўлены мог узяць кароценькую брашуру, дзе агульна інфармавалася пра Беларусь.

І наапошку трэба сказаць, што адкрыцьцё дзьвярэй павілёну падаражэла: сёлета розныя дазволы і ўкосныя падаткі дайшлі аж да 800 даляраў. А тут яшчэ й зарабіць хочацца! Дык і вялікая заслуга ўсіх тых, што папрацавалі. Адно жадаем, каб налета было яшчэ лепш. А пры добрэй ахвоце й талерянцыі адзін аднаго яно й ня так цяжка.

**К. Акула**


**НОВАЯ КРУЖЭЛКА**

зь беларускімі песьнямі ў выкананьні маладога тэнара

**ДАНЧЫКА АНДРУСЬШЫНА**

На кружэлцы — 14 беларускіх рамансаў і народных песьняў, выкананых пад гітару й запісаных у новай музычнай студыі **Алекса Мартыновіча.**

**Купляць і замаўляць паводля адрысу:**

Mr. B. Andrusyshyn
430 E. 6th Street New York, N. Y. 10009

**Цана $6.00**


## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (месяц чырвень) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**I. ЗША:**

**А. Прысланa беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Парахвіяльная Рада ў Гайлэнд Парку ў знак ушанаваньня сьв. пам. Філярэта Родзькі | $ 80.00 |
| 2. Сп-ня В. Родзька ў знак ушанаваньня сьв. пам. Філярэта Родзькі | 80.00 |
| 3. М. Міцкевіч | 25.00 |
| 4. В. і М. М. | 25.00 |
| 5. Г. А. | 20.00 |
| 6. М. Васілеўская | 20.00 |
| 7. С. Красоўскі | 15.00 |
| 8. П. Нягода за клішу з царкоўнай урачыстасьці | 15.00 |
| 9. А. Мацукевіч | 15.00 |
| 10. Д. Леўчук | 10.00 |
| 11. Г. К. | 10.00 |
| 12. К. Загонак | 10.00 |
| **Разам:** | **$ 245.00** |

**II. АНГЕЛЬШЧЫНА:**

**Заплачана прадстаўніку „Беларуса" ў Бірмінгам М. Баяроўскаму ў ангельскай валюце:**

| | |
|---|---|
| 1. Сьв. пам. А. Буката | 50 фунтаў |
| 2. М. Баяроўскі | 20 фунтаў |
| 3. У. Карніловіч | 5 фунтаў |
| 4. Я. Міхальчык | 5 фунтаў |
| 5. М. Баяроўскі для перадачы часапісу „Беларуская Моладзь" 10 ф., разам 90 фунтаў, што ў пераводзе на валюту ЗША дало | **$ 153.26** |

**БЭЛЬГІЯ:**

| | |
|---|---|
| 1. Л. Клыбік | $ 13.00 |

**IV. НЯМЕЧЧЫНА:**

| | |
|---|---|
| 1. С. У. | **$ 20.00** |
| **Усяго разам:** | **$ 431.26** |

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011